


# Наша Слова




ЧАЛАВЕК, ЯКІ САМ ПА САБЕ
Стар.2.

НЕБЯСПЕКА ДЛЯ РАСІІ ПРЫХОДЗІЦЬ З БЕЛАРУСІ?
Стар.4.

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 52 (316) 26 снежня 1996г. Кошт -- 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **Кіраўнікі Беларусі ў галіне раззбраення і бяспекі ў Еўропе дзейнічаюць паслядоўна і настойліва** — на гэтым зрабіў акцэнт у сваім выступленні на сесіі Савета Паўночнаатлантычнага супрацоўніцтва міністр замежных спраў нашай краіны Уладзімір Сянько, які ўзначальваў беларускую дэлегацыю.

○ ***Упершыню за пяць гадоў існавання СНД па ініцыятыве Беларусі*** *ў Менску збіраліся кіраўнікі дзяржаўных органаў па друку краін-удзельніц СНД. Мэты нарады — абмеркаванне праблем інфармацыйнай інтэграцыі і наладжванне кантактаў. Важным вынікам сустрэчы з'явілася прапанова, унесеная кіраўніком Дзяржкамдруку Беларусі Уладзімірам Бельскім, аб стварэнні Міждзяржаўнай нарады па супрацоўніцтве дзяржаў-удзельніц СНД у галіне інфармацыйнай інтэграцыі, і яна была ўсімі падтрымана.*

○ **Прайшла першая сесія** Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі. Дзялілі партфелі...

○ ***Палатай прадстаўнікоў абраныя кіраўнікі 11 пастаянных камісій.*** *Як ужо прагучала па Беларускім тэлебачанні, імі сталі былыя кіраўнікі КДБ і аграрыі. Не было з каго выбіраць?*

○ **У 1990 годзе, калі ў нашай краіне быў прыняты Закон аб мовах,** дзейнічала толькі 26 першых беларускамоўных класаў. У 1994/95 навучальным годзе функцыянавала 3 тысячы 140 беларускамоўных школ. Гэта складала 64,6 працэнта ад усіх агульнаадукацыйных сярэдніх устаноў. 75,3 працэнта вучняў першых класаў, 76,6 працэнта — другіх, 69,8 працэнта -- трэціх і 45,7 працэнта — чацвёртых у тым годзе атрымлівалі адукацыю, як гэта і трэба, на роднай мове. Пасля ж травеньскага рэферэндуму 1995 года, калі расійская мова атрымала роўны статус з беларускай, першых беларускамоўных класаў у новым навучальным годзе было толькі 37,9 працэнта, другіх — 50,8, трэціх — 57,3. А сёлета яшчэ меней. Вось вам і роўны статус беларускай мовы і мовы суседняй дзяржавы!

○ ***18 снежня ў Бярэсці адкрыта консульства Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь.***

○ **Беларускаму дзяржаўнаму музею народнай архітэктуры і быту споўнілася 20 гадоў. Віншуем!**

○ ***На тэрыторыі былога СССР 95 працэнтаў сем'яў маюць хатнія бібліятэкі,*** *у якіх сабрана 30 мільярдаў кніг — у шэсць разоў больш, чым у дзяржаўных і прафсаюзных бібліятэках краін СНД. Мяркуючы па кошце цяперашніх кніг, бібліятэкі на сённяшні дзень амаль не абнаўляюцца. Так што, калі так будзе і далей, то глядзіш праз нейкі дзесятак гадоў не будзе чым і пахваліцца. Кнігі ж не вечныя...*

○ **У сталічным Доме літаратара адбылася вечарына "Стану песняй у народзе"**, якая была прысвечана жыццю і творчасці выдатнай беларускай паэткі Цёткі.

○ ***Памежнікамі Беларусі, як стала вядома з друку,*** *за 11 месяцаў гэтага года было затрымана больш як 3000 парушальнікаў дзяржаўнай мяжы. Праўда, не сказана, колькі бегла ад нас, а колькі да нас.*

○ **Агульная плошча жылля, якое належыць грамадзянам на праве ўласнасці,** павялічылася ў параўнанні з 1991 годам у Беларусі ў 3 разы, на Украіне — у 4 разы, у Расіі — у 12 разоў. І гэта не дзіўна — мы жывём у розных дзяржаўных сістэмах.

# ТБМ існуе і дзейнічае

Напярэдадні Новага года адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы. На парадку дня былі два пытанні: аб дзейнасці Таварыства ў цяперашніх умовах і аб тым, што рабіць, каб газета "Наша слова" надалей не толькі захавалася, але і значна пашырыла колькасць сваіх падпісчыкаў ды чытачоў. Пасяджэнне адкрыў старшыня ТБМ народны паэт Ніл Гілевіч. Ён адзначыў, што ў цяперашніх палітычных умовах у Беларусі яшчэ больш узмацніўся ўціск на беларускасць, адбываецца паўсюдная дыскрымінацыя беларускай мовы, хаця нават у новай, прэзідэнцкай Канстытуцыі, якую яе ініцыятар правёў ажно праз рэферэндум, для нацыянальнай мовы беларусаў гарантаваныя роўныя правы з замежнай расійскай. Але якая ж роўнасць, калі ўсялякімі метадамі закрываюцца тыя не вельмі шматлікія беларускамоўныя класы ў сярэдніх школах, якія некалькі гадоў працавалі, калі няма ў краіне ніводнай вышэйшай навучальнай установы на мове карэннай нацыі! То для каго тады ў нас рыхтуюць за кошт беларускага насельніцтва кадры? Што да прэсы, то і тут на беларускай мове выходзяць з вельмі няпэўнымі шансамі нават на бліжэйшую будучыню лічаныя выданні з невялікімі тыражамі. Астатняя ці цалкам выдаюцца на расійскай мове, ці ўжываюць "мяшанку" з перавагай расійскамоўных матэрыялаў. Усё гэта імкліва вядзе да таго, што ў бліжэйшыя гады насельніцтва Беларусі, якое лічылася адным з найбольш адукаваных у межах СССР, стане ўвогуле малапісьменным, што, вядома ж, адмоўна паўплывае не толькі на ўзровень культуры, але і эканомікі, пра якую так шмат гавораць.

У такіх умовах, адзначыў Ніл Гілевіч, усім шчырым сябрам Таварыства нельга праяўляць пасіўнасць і разгубленасць, а трэба яшчэ больш упарта працаваць на беларускай ніве, падтрымліваючы адзін аднаго.

Вельмі важна таксама, адзначыў старшыня ТБМ, зрабіць усё магчымае, каб не толькі выжыла, але і стала больш тыражнай газета "Наша слова". Ён пагадзіўся з прапановамі, каб газета займела яшчэ некалькі заснавальнікаў з ліку грамадскіх беларускіх арганізацый асветніцкага і праваабарончага кірунку.

Галоўны рэдактар газеты "Наша слова" Эрнэст Ялугін паведаміў, што разам з Таварыствам беларускай мовы заснавальнікамі газеты далі згоду стаць Беларускі Хельсінкскі камітэт, Таварыства беларускай школы, Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Беларускі ПЭН-цэнтр, Беларуская асацыяцыя журналістаў і Аб'яднанне беларускіх скаўтаў, якія разам ствараюць Апякунскую раду дзеля ажыццяўлення і каардынацыі матэрыяльнай падтрымкі газеты і належнага кантролю за рацыянальным расходваннем сродкаў.

Рада ТБМ падтрымала гэтую ініцыятыву і абрала паўнамоцным прадстаўніком Апякунскай рады, а таксама членам рэдкалегіі газеты Алега Анатольевіча Трусава, вучонага-гісторыка, дэкана бібліятэчнага факультэта Дзяржаўнага універсітэта культуры, актывіста ТБМ.

Па пытаннях жыццядзейнасці ТБМ выступілі намесніца старшыні ТБМ Вольга Кузьміч, аргсакратар Людміла Дзіцэвіч, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь акадэмік Радзім Гарэцкі, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Зуёнак, вучоны-мовазнаўца Пятро Садоўскі, Валерый Костка (Маладзечна), Алег Трусаў, Марыя Мацюкевіч (Салігорск), прафесар, доктар тэхнічных навук Аляксей Саламонаў.

На радзе ў сябры Таварыства была прынятая група прадстаўнікоў маладой змены беларусаў — старшакласнікі г. Менска. Падрабязней пра гэта — у бліжэйшых нумарах газеты.

Вырашана таксама прыкладна 25 студзеня 1997 г. правесці пленум Рэспубліканскай Рады па пытанні падрыхтоўкі чарговага з'езда ТБМ з тым, каб правесці яго не пазней красавіка.

Л. М.

*Уражанні*

## Спадзяванне на дзяцей

Апошні рэферэндум выклікае роспач, горыч і адчай. Наша сям'я ўспрыняла гэтае шоў як асабістую трагедыю. З часу пахавання незабыўнай матулі, светлай памяці Ефрасінні Данілаўны, рэферэндум — найвялікшая для нас бяда. Мы, аднак, упэўненыя, што сапраўдныя вынікі рэферэндуму не такія. Тым не менш, няпраўда стала нашай суровай рэчаіснасцю. Яна закрэсліла, магчыма, на доўгія гады наперад усякія спадзяванні на лепшае. З самага нізу жыцця мне вельмі добра бачна, што пробліскаў не бачна ні ў адной сферы. Возьмем духоўную. Гэта ж навідавоку: без нацыянальнай мовы не можа быць нацыянальнай культуры. Здзек з мовы карэннага насельніцтва вядзе да хамства, невуцтва, цемрашальства. Так ёсць і так будзе. У сферы матэрыяльнай і за рысай не бачна, калі дасягнем хаця б узроўню канца 1993 года. Заводы "запушчаныя", і так будзе. Але ж жыць трэба. Калі я не магу зрабіць запуск завода, не магу пачаць сваю справу (дзесяткі маіх знаёмых сцвярджаюць, што адразу ж налятае безліч кантралёраў Адміністрацыі і душаць), то агарнуць далонямі парасткі роднай мовы пад сілу мне. Каб учулі Боскія радкі Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, пачыталі ў "Нашым слове" палымяныя словы В. Іпатавай, артыкулы У. Панады і іншых сумленных журналістаў, дакрануліся да сапраўднай гісторыі Беларусі, дзе спахмурнелі, а дзе ўсміхнуліся дзеці, іду я сёння на пошту і з апошніх 50 тысяч руб. выпішу для школы "Наша слова" на першы квартал 1997 г. На хлеб (за які нейкі стары ў час рэферэндуму слёзна дзячыў "народнаму") я прадам заўтра трохлітровыя слоікі. А разбэшчаных ўседазволенасцю няхай усцешыць, што ёсць Божы суд, толькі Бог дае мову і за яе спытаецца.

Адзіны мой промень святла ў нашым змрочным каралеўстве — дзеці. Таму іх уважліва слухаю, хачу ім усяляк дапамагчы і на іх спадзяюся на будучыню.

**Л. СУДЗІЛОЎСКАЯ.**
г. Гомель.

*ЦЯПЕР МЫ РАССТАЕМСЯ. СПАДЗЯЁМСЯ, НЕНАДОЎГА. З НАСТУПАЮЧЫМ НОВЫМ ГОДАМ, ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!*



Вас вітаюць нашасловаўцы (злева направа): **Альгерд Невяроўскі, Здзіслаў Сіцька, Вера Варанцова, Эрнэст Ялугін, Ірына Крэнь, Уладзімір Аніскові́ч, Генадзь Кажамякін, Уладзімір Панада, Ала Сабалеўская.**

Фота зрабіў каля Опернага тэатра **Уладзімір КАРМІЛКІН.**

*Культурнае жыццё*

## Па ініцыятыве суполкі ТБМ

З лёгкай рукі пярвічнай суполкі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, дырэкцыі і грамадскіх арганізацый СШ № 14 у Лідскай карціннай галерэі адкрылася незвычайная выстава. На ёй прадстаўлена творчасць юных мастакоў згаданай школы. Дарэчы, сваё здольнасці тут спрабуюць і ўдасканальваюць каля 160 вучняў.

Тых, хто з дзіцячых гадоў палюбіў мастацтва і мае намер прысвяціць яму свае здольнасці і працу, шчыра павіншавалі старшыня гарадской Рады Таварыства беларускай мовы Міхась Мельнік, прадстаўнікі Мінадукацыі, гарана і інш. Удзельнікаў выставы прывіталі тэлеграмамі Ніл Гілевіч, іншыя вядомыя дзеячы культуры Беларусі. Пасля ўрачыстага адкрыцця прысутныя з замілаваннем аглядалі шматлікія творы юных мастакоў... З добрым густам яны адлюстравалі прыгажосць роднага краю і яго людзей. Многіх уразіў партрэт "Беларусачка" — запамінальная работа паклоннікаў ручнога ткацтва.

У свой час лідчане знаёміліся ў карціннай галерэі з творамі свайго земляка Яна Кузьміцкага (жыве ў Швецыі), нядаўна — з працамі знакамітай мастачкі з ЗША, ураджэнкі суседняй Навагрудчыны Тамары Стагановіч. Магчыма, майстрамі такой жа вядомасці стануць у будучым некаторыя з юных мастакоў сённяшняй Ліды.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ,**
**намеснік старшыні Лідскай Рады Таварыства беларускай школы.**

## *Свята, нягледзячы на сённяшнія абставіны*

Сёлета споўнілася 10 гадоў школе № 26, што ў Гародні. Здаецца, гэта зусім няшмат. Але святочныя ўрачыстасці, праведзеныя ў школе 26 кастрычніка гэтага года, паказалі, як многа можна зрабіць нават і за такі тэрмін, калі за справу бяруцца людзі, адданыя сваёй справе.

Школа пачалася са своеасаблівага рэкорда будаўнікоў, якія своечасова здалі новы будынак. І вось з 1 жніўня 1986 года калектыў настаўнікаў на чале з дырэктарам Валянцінам Іванавічам Шаўцовым працаваў над стварэннем Школы — такой школы, у якой цікава вучыцца, добра працаваць, аб якой успамінаюць і праз шмат гадоў пасля заканчэння.

Свята пацвердзіла, што гэтых мэтаў школа дасягнула. Вялікі працэнт выпускнікоў, якія паступаюць у ВНУ (68 — 75 %), сведчыць аб высокім узроўні выкладання. Святочны канцэрт, у якім прымалі ўдзел і цяперашнія яе вучні, і былыя выхаванцы, паказаў любоў і павагу да роднай школы, добрыя ўмовы для развіцця творчых талентаў. А гумарыстычныя нумары ў выкананні настаўнікаў праявілі, які аптымістычны настрой пануе ў школе. Пэўна менавіта гэты настрой дапамагае калектыву захоўваць традыцыі нацыянальнай адукацыі, выхоўваць у вучняў павагу да роднага слова, роднай культуры.

Настаўнікі вядуць выкладанне пераважна на беларускай мове. У гэтым годзе ўжо дасягнулі дзевятага класа тыя вучні, якія пачыналі вучыцца на роднай мове з першага класа. Беларускамоўныя з'яўляюцца і тыя класы, якія ідуць за імі. (На жаль, сёлета два першыя класы дырэкцыя школы вымушана была зрабіць расійскамоўнымі).

Шмат цёплых слоў юбілярам сказалі прадстаўнікі гарадскіх уладаў, дырэктары іншых школ горада, Рады ТБМ Гародні, культурнаасветніцкага аб'яднання "Ратуша", дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі С. Домаш і іншыя сябры ды спонсары, якія з нагоды юбілею паднеслі школе каштоўныя падарункі.

Старэйшы настаўнік горада А. Цыхун, які часта бывае ў школе і сустракаецца з вучнямі, прачытаў свае вершы. Новую сваю кнігу "Літаратурная Гродзеншчына" падараваў прафесар Гарадзенскага універсітэта, загадчык кафедры беларускай культуры А. Пяткевіч.

Літаратурнай творчасцю ў школе займаюцца многія — з лёгкай рукі і з падтрымкі дырэктара В. Шаўцова, вершы якога добра ведаюць чытачы не толькі на Гарадзеншчыне. Да юбілею быў абвешчаны конкурс на лепшы твор, прысвечаны школе. Творы 30 аўтараў — вучняў школы — уключаны ў зборнік, першыя экземпляры якога былі ўручаныя пад час святочных урачыстасцяў.

Апафеозам канцэрта, несумненна, было выкананне зводным хорам школы песні "Шумлівыя гаі" на словы і музыку В. Шаўцова, калі да таго ж дырэктар выканаў сольную партыю.

Юбілей школы стаў вялікім святам для ўсяго навакольнага мікрараёна.

**Ніна КАНУННІКАВА.**
Гародня.

*Дзеючыя асобы*

*Сяргей Занкевіч: менчук, узрост — 42 гады, адукацыя — вышэйшая (скончыў Менскі радыётэхнічны інстытут). Працаваў на заводах імя Леніна (цяперашні БелВАР), "Гарызонт", на чыгунцы. Тры гады таму ён перайшоў у прыватны бізнес. Цяпер — намеснік дырэктара прыватнай фірмы.*

*Нядаўна сп.Занкевіч прыйшоў у сядзібу ТБМ, але не з просьбаю аб дапамозе, як робяць многія апошнім часам, а з прапановай. Ён заявіў аб сваёй гатоўнасці наладзіць і аплаціць моўныя курсы для выкладчыкаў школы, у якой навучаецца яго дзіця. Ад Таварыства патрабавалася няшмат: знайсці людзей, якія б маглі на гэтых курсах выкладаць.*

*Прыватная асоба з уласнай ініцыятывы займаецца тым, што мусіць рабіць (але ўжо доўгі час не робіць) Таварыства беларускай мовы. Гэта не магло не прыцягнуць увагі карэспандэнта "Нашага слова" Уладзіміра Панады, які неўзабаве сустрэўся са сп.Занкевічам.*

# "Я САМ ПА САБЕ"

**— Вы — сябра ТБМ?**

— Я з прыхільнасцю стаўлюся да гэтай арганізацыі. Але яе сябрам не быў ніколі, ды і наогул ведаю пра яе не так шмат.

**— У такім выпадку — што і адкуль?**

— Аднойчы мне ў рукі выпадкова патрапіла газета "Наша слова". Пасля таго я пачаў купляць яе ў кіёску, а потым і выпісаў. Па сутнасці, усё, што я ведаю пра Таварыства, паходзіць з газетных публікацый. А калі ўзніклі праблемы з адукацыяй майго дзіцяці, я падумаў, што ТБМ — гэта якраз тая арганізацыя, якая можа мне дапамагчы.

**— Чым?**

— Я размаўляў з дырэктарам менскай школы №214, у якой вучыцца маё дзіця. "Паўсюль скарачаюцца беларускія класы. Сёлета скароцім іх і мы, бо гэтага хочуць бацькі", — пачуў я ад яго.

Але гэтак адбываецца толькі там, дзе справу пераходу адукацыі на расійскую мову падтрымлівае школьная адміністрацыя, дзе няма людзей, гатовых адстойваць свае правы. А свае правы я ведаю. Убачыўшы настрой мой і яшчэ аднаго з бацькоў, дырэктар сказаў, што асабіста ён не будзе супярэчыць патрабаванням бацькоў захаваць беларускі клас, але не ўсе настаўнікі могуць весці выкладанне па-беларуску. На арганізацыю моўных курсаў для выкладчыкаў школа не мае сродкаў — сказаў ён, але згадзіўся даць памяшканне дзеля іх арганізацыі пры ўмове, што ўсе выдаткі аплачу я сам. На гэтым мы і пагадзіліся.

**— Дык якую ж дапамогу ад Таварыства Вы атрымалі?**

— Я даў грошы, а ў ТБМ мне знайшлі выкладчыка — сакратара ТБМ Людмілу Дзіцэвіч. Гэта і была іх дапамога. Курсы, якія я прапанаваў наладзіць, пачнуць працаваць з новага года. Але я хацеў большага — каб у наш цяжкі час нехта нёс людзям гэтую беларушчыну, і зноў жа праз ТБМ дамовіўся, каб у школе выступіў пісьменнік Артур Вольскі — усім там ён і яго выступленне вельмі спадабаліся. Цяпер я хацеў бы, каб у школе выступіў нехта з беларускіх артыстаў. Гэта патрэбна, а калі гэта каштуе грошай, — што ж, трэба плаціць.

**— Па сутнасці, Вы дамагліся таго, чаго хацелі, самастойна — падтрымка звонку была мінімальнай...**

— Так, я сам па сабе. Проста беларус — нармальны, не савецкі. Я бачу, што чакаць падтрымкі беларушчыны з боку дзяржавы, першыя асобы якой публічна зневажаюць нашую мову, папросту наіўна. Бо тое, што ва ўсіх краінах ёсць нормай — свабодны выбар мовы адукацыі, у нас робіцца акцыяй грамадзянскай мужнасці. Я лічу, што гэта ненармальна.

Праўда, існуюць грамадскія структуры, якія кажуць, што могуць мне паспрыяць, і гэта добра. Але я бачу, што беларускім арганізацыям самім патрэбная дапамога. Яны выказваюць добрыя намеры, але не маюць грошай на іх ажыццяўленне.

Таму мне найбольш дапамагаюць не яны, а тое, што, працуючы ў прыватным бізнесе, я набыў звычку спадзявацца толькі на ўласныя сілы.

**— Чым, на Ваш погляд, выкліканае становішча бездапаможнасці нацыянальных арганізацыяў?**

— Я даволі даўно чытаю газету ТБМ і з яе публікацый больш ці менш дакладна ўяўляю, што адбываецца ў Таварыстве. Вельмі многія яго сябры і кіраўнікі — людзі з дзяржаўнага апарата. Гэта значыць, яны, з аднаго боку, мусяць пільнаваць інтарэсы грамадскай арганізацыі, а з другога — урада. Але корміць іх не ТБМ, а ўрад. Менавіта ў гэтым прычына няпэўнай пазіцыі вашай арганізацыі, сябры якой адначасова хочуць і дзейнічаць насуперак памкненням рэжыму, і быць да яго лаяльнымі.

Стан рэчаў у ТБМ маглі б змяніць асобы, менш залежныя ад уладаў. Да іх належаць і тыя, што працуюць у прыватных, а не дзяржаўных структурах. Але ж, чытаючы "Наша слова", я не знаходзіў згадак аб іх прысутнасці не толькі ў кіраўніцтве арганізацыі, але і сярод шараговых яе сяброў. Таму, як я разумею, абліччa Таварыства ствараюць дзяржаўныя чыноўнікі са сферы навукі і адукацыі, якія імкнуцца не ісці на канфрантацыю.

Затое тыя ж прыватныя прадпрымальнікі — між іншым, такія ж беларусы і грамадзяне Беларусі, як і ўсе вашыя чытачы — эфектыўна супрацьстаяць спробам уціску. Успомніце хаця б іхнія страйкі на сталічным стадыёне "Дынама"! Праўда, я бачу што гэтыя людзі знаходзяцца па-за абшарам уплыву Таварыства беларускай мовы — яно не шукае з імі кантактаў.

**— ТБМ не прываблівае "новых беларусаў"?**

— Разумееце, яны ніколі не чулі з боку Таварыства нейкіх заклікаў да супрацоўніцтва. Да таго ж, якія грошы можа даць бедная грамадская арганізацыя сваім штатным супрацоўнікам, якія сёння мусяць быць не толькі руплівцамі мовы, але і добрымі арганізатарамі, эканамістамі, менеджэрамі? Я разумею, што ў гэтым не толькі вашая віна, але існаванне такога замкнёнага кола — непрафесіяналізм — беднасць — і таму зноў непрафесіяналізм — не прываблівае да супрацоўніцтва з ёй людзей з камерцыйных структураў.

Калі ўжо гаварыць пра камерцыю, дык вось адзін толькі прыклад: паглядзіце, што за кніжкі прадаваліся ў кіёску ТБМ. Я купляў (але не там) кнігі з гісторыі Беларусі, кнігі аб выхаванні дзяцей, дзіцячую літаратуру. А ТБМ прапаноўваў мне выданні аб рэформе правапісу, зборнікі лістоў у Вярхоўны Савет, нейкія агітацыйныя брашуры... Гэта добра, але ж мяне, як і большасць маіх суайчыннікаў не трэба было агітаваць гаварыць сваёй мовай. Я не буду купляць спецыялізаваныя выданні для філолагаў і заатэхнікаў толькі з той прычыны, што яны надрукаваныя па-беларуску.

Калі б Таварыства выдала па-беларуску збор твораў Аляксандра Дзюма, бібліятэку дзіцячай ці прыгодніцкай літаратуры альбо іншыя кнігі, якія з цікаўнасцю чыталі б нават тыя людзі, якія блага ведаюць мову, дык гэтыя кнігі далі б арганізацыі значна больш зыск і сталі б лепшым сродкам прапаганды беларушчыны ў самым шырокім асяроддзі людзей.

Але ж так не было. І з гэтага я раблю выснову: вашыя людзі не мелі ўяўлення аб камерцыйнай дзейнасці, бо перад тым, як нешта рабіць, трэба падумаць, ці будуць гэта купляць? Найбольш верагодна, ТБМ цікавіла задавальненне не попыту беларускамоўных чытачоў, а нейкіх іншых патрэбаў. У выніку вашая выдавецкая праграма мусіла аказацца стратнай і, думаю, такой і аказалася.

Калі ў вашай газеце з'явіўся артыкул пра беларускае відэа, мая жонка тэлефанавала і ў рэдакцыю, і ў ТБМ, каб даведацца, дзе купіць мастацкія відэафільмы з беларускім дублем. Такіх фільмаў яна не знайшла, хаця я ведаю мноства людзей (нават тых, што стала гавораць па-расійску) якія б купілі іх для сябе і для сваіх дзяцей. А каму, як не вам, гэтым займацца? Але сёння беларусы абмяжоўваюцца пераважна заклікамі да шанавання мовы — і толькі.

**— Якое выйсце Вы бачыце з гэткага становішча?**

— Вы ведаеце: я прыйшоў у сядзібу Таварыства не прасіць дапамогі, а прапанаваць яе — наладзіць курсы, даць працу людзям.

Так мусіць рабіць і вашая арганізацыя. Калі яна хоча быць моцнай і ўплывовай, дык трэба не прасіць дапамогі, а ўдзяляць яе. А чакаць, што на змену цяперашняй уладзе прыйдзе іншая, якая будзе вам дапамагаць, не варта.

Трэба дзейнічаць самім, вучыцца выжываць у неспрыяльных умовах. Трэба адчыніць дзверы Таварыства для новых людзей. Трэба шукаць новых прыхільнікаў. Трэба, каб арганізацыяй кіравалі не выключна настаўнікі, але і людзі з іншых асяродкаў. Толькі тады яна стане масавай, моцнай і ўплывовай.

І апошняе: беларушчына — справа прыватная, а не дзяржаўная. За яе давядзецца плаціць не ўраду, а кожнаму з вашых сяброў. Ці гатовыя яны да таго?

*Улада і беларуская прэса*

# І да вожыкаўца дабраліся...

У Цэнтральным райсудзе сталіцы пачаўся судовы працэс над журналістам-вожыкаўцам Сяргеем Шамёнкам.

Як паведамлялі ў свой час апазіцыйныя СМІ, супрацоўніка сатырычнага беларускага часопіса "Вожык" Сяргея Шамёнка (між іншым, сына вядомага паэта, драматурга і лідэра дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў вайны і працы краіны Артура Вольскага), прадстаўнікі сілавых структураў раніцай 31 траўня г. г. зараштавалі проста на бацькавай кватэры. Гэта адбылося наступным днём пасля вядомых падзей, што адбыліся каля будынкаў ГУМа і Нацыянальнага банка на праспекце Францішка Скарыны Менска.

Цяпер 33-гадовага аўтара вострых фельетонаў, які, па словах Артура Вітальевіча, далекаваты ад палітыкі, але даволі паспяхова шукае сябе ў сатырычным слове, пракуратура Цэнтральнага раёна абвінавачвае ў супраціўленні органам унутраных спраў, або — у парушэнні артыкула 1871 ч. 2-й Крымінальнага Кодэкса РБ. Дарэчы, дзеянні, што падпадаюць пад гэты артыкул (супраціў работнікам міліцыі або народным дружыннікам пад час выканання тымі сваіх абавязкаў па захаванні грамадскага парадку), лічацца сур'ёзным злачынствам. Тут парушальнік законнасці можа атрымаць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ад 1 да 5 гадоў альбо выпраўленчых работ ад 1 да 2 гадоў.

У чым жа канкрэтна заключалася мяркуемае злачынства калегі Шамёнкі?

Паводле паказанняў, якія даў на судовым пасяджэнні нібыта пацярпелы ад журналіста супрацоўнік РАУС Цэнтральнага раёна, капітан міліцыі спадар Палішчук, вожыкавец замахнуўся на афіцэра парасонам, калі апошні пасля 18.00 30 траўня ахоўваў ад натоўпу левыя бакавыя дзверы ГУМа, праз якія ў будынак міліцыянты завялі некалькіх затрыманых, так бы мовіць, хуліганствуючых элементаў. Натоўп падазраваў міліцыянтаў у збіванні затрыманых. Грамадзяне патрабавалі тыя дзверы адчыніць ды "павязаных" адпусціць на волю.

Дык вось, ад абвінавачвання прагучала версія: замах Шамёнкі парасончыкам на афіцэра быццам бы справакаваў натоўп да экстрэмізму. Мітынгоўшчыкі (або маніфестанты) ускадзіліся, навалілся на сп. Палішчука. У выніку нейкая жанчына мажнай камплекцыі збіла афіцэра з ног, а затым нейкія людзі нагамі некалькі разоў ударылі па галаве ляжачага на асфальце ў непрытомнасці ахоўніка правапарадку.

Раскадроўка адпаведнай відэастужкі, адзнятая, як я зразумеў, міліцэйскімі хранікёрамі, сапраўды, паказала чорны парасончык і твар журналіста Сяргея Шамёнкі ў натоўпе. Але ці належаў парасончык вожыкаўцу, ці меў месца замах у бок пацярпелага і наогул — замах з мэтай нанесці сп. Палішчуку цялесныя пашкоджанні, я гэтага на відэастужцы не ўгледзеў. Не знайшлі, як ні стараліся, прадстаўнікі абвінавачвання ў адным кадры афіцэра міліцыі і журналіста, які змяніў пяро на халодную зброю — парасон.

У першы дзень судовага пасяджэння адвакат сп. Шамёнкі, вядомая ў горадзе праваабаронца Надзея Дударава зрабіла ці не самую важную справу. Яна нечакана задала пытанне сп. Палішчуку: аказваў супраціў міліцыі грамадзянін Шамёнка або не? Афіцэр адказаў: не, не аказваў. Хаця ў абвінаваўчым выраку, складзеным следчым Цэнтральнай райпракуратуры сп. Магарылам і зацверджаным сп. Рубісам, даводзілася, што журналіст гэткі супраціў аказваў.

Не змог канкрэтна пацвердзіць вінаватасць вожыкаўца і сведка абвінавачвання, сяржант міліцыі са згаданага РАУС сп. Навасельцаў.

А вось з паказання яшчэ аднаго сведкі, курсанта Менскага авіякаледжа сп. Пятроўскага, якога, паводле яго расповяду, 30 траўня каля ГУМа затрымалі і збілі міліцыянты, вынікала: менавіта гэтаму 19-гадоваму юнаку спрабавалі інкрымінаваць збіццё каля ГУМа афіцэра сп. Палішчука.

"Непраглядабельны" на відэастужцы замах журналіста парасонам на сп. Палішчука, памянёны адказ на пытанне самага пацярпелага, а таксама нежаданне папярэдняга следства заслухаць сведкаў тых ці іншых эпізодаў падзеяў 30 траўня з ліку парламентарыяў (а там былі дэпутаты Грыб, Гразнова, Данейка і Хрол) далі падставы адвакату сцвярджаць, што справа супраць сп. Шамёнкі сфабрыкаваная і ўважае палітычныя мэты.

Вось што сказаў мне на гэты конт наш калега Сяргей Шамёнка:

— Наконт цэлай з'явы ў палітычнай юрыспрудэнцыі, а не толькі гэтага працэсу, я магу толькі паўтарыць словы калегі Вінцука Вячоркі: уладатрымальнікі стараюцца, каб на шыях лідэраў партый і рухаў, а таксама дэмакратычных журналістаў заўсёды была крымінальная пятля.

Пацярпелы бок пакуль што ад каментараў устрымаўся, чакае заканчэння працэсу. Але суддзя Тамара Злобіч нечакана захварэла. Трэба зазначыць, што яна дазволіла мне карыстацца дыктафонам, з разуменнем паставілася да карэспандэнта "Нашага слова".

Ці прыме яна аргументацыю абароны журналіста-вожыкаўца?

Ці здолее ў цяперашніх паслярэферэндумных сацыяльна-палітычных умовах вынесці па справе аб'ектыўны вырак?

На гэтыя пытанні адкажа другое судовае пасяджэнне, якое адбудзецца хутчэй за ўсё ў 1997 годзе.

Пра вынікі суда чытачы "Нашага слова" будуць абавязкова праінфармаваныя.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
карэспандэнт "Нашага слова".

*Меркаванні*

## Каштоўнасць, якой няма цаны

З газетай "Наша слова" я пазнаёміўся ў 1993 годзе. Садзейнічаў мне ў гэтым шэраг абставінаў. Мяне даўно цікавілі матэрыялы па гісторыі Беларусі, але на той час было іх мала. У 1993 годзе, як вядома, праяўляў актыўнасць грамадскі рух, збіраўся "Кангрэс народаў", прыхільнікі рыхтаваліся аднавіць Савецкі Саюз. Актывізаваліся тады і супраціўнікі адраджэння беларускай нацыі.

У той час у некаторых газетах, асабліва ў нашай абласной "Гомельскай праўдзе", якую я рэгулярна чытаў, з'явілася нямала артыкулаў па гісторыі Беларусі. Аднак яны ў большасці не адпавядалі зместу працаў, што апублікаваў на той час гісторык М. Ермаловіч, а яшчэ больш за стагоддзе раней — расійскі літаратар і гісторык М. Карамзін. У тых газетных артыкулах існаванне Беларусі не адмаўлялася, аднак яе ўласнай гісторыі як і не было.

Я шукаў матэрыялы па гісторыі Беларусі ў розных газетах, і гэтак пазнаёміўся ў чытальнай зале бібліятэкі з газетай "Наша слова". У ёй я знайшоў пераканаўчыя гістарычныя звесткі, а таксама і матэрыялы для вывучэння беларускай мовы. Тое, што мне патрэбна. З гэтага часу пачаў выпісваць гэтую газету.

Мяркую, што многія, ці не большыня, жыхароў Беларусі, з газетай "Наша слова" яшчэ не знаёмыя. А шкада. У першую чаргу — самі беларусы, якія хоць і ведаюць расійскую і нібыта мовяць па-расійску (на самай справе — на мове-мешанцы, знакамітай трасянцы), але сваю родную мову ведаюць. Яны толькі адвыклі размаўляць па-беларуску. А ў Беларусі, як вядома, акрамя беларусаў, з даўніх часоў, жывуць прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў. Ім таксама, я пераканаваны, патрэбна ведаць беларускую мову: гэта натуральна, і так павінна быць!

Я не буду пералічваць вартасці газеты "Наша слова". Вядома, што ў яе стварэнні бяруць удзел журналісты і навукоўцы, вопытныя спецыялісты па філалогіі, гісторыі, культуры і інш. Падыходзіць яна і навучэнскай моладзі, і дарослым людзям. Яна служыць беларускаму Адраджэнню. Трэба, каб наклад газеты "Наша слова" павялічваўся. Дзеля гэтага, мяркую, частку накладу "Нашага слова" трэба прадаваць у кіёсках. Многія чытачы спачатку купляюць газету ў кіёску, знаёмяцца з ёю, а потым, калі прыйшлася па душы, выпісваюць. Газету "Наша слова" я па месцы жыхарства ў г. Рэчыцы, ды і ў Гомелі, і раённых гарадах вобласці ў продажы не сустракаў. А, напрыклад, "Народная воля", як пачала прадавацца ў кіёсках, хутка набыла вядомасць і стала папулярнай.

У мінулым годзе чамусьці быў вельмі малы выбар беларускамоўных газет. А што да "Нашага слова", я лічу — гэта газета добрая і папулярная. Таму трэба арганізаваць яе продаж у розніцу.

Мяркую, што газета "Наша слова" можа і павінна дапамагчы жыхарам сваёй краіны авалодаць беларускай мовай і, галоўнае, вярнуць ім павагу да яе.

Лічу таксама, што нам карысна навучыцца чытаць і пісаць на беларускай лацінцы. Да такой высновы я прыйшоў даўно і не выпадкова. Беларусь — еўрапейская дзяржава. У Еўропе пераважна выкарыстоўваецца лацінскі шрыфт. Людзі цяпер пісьменныя, лацінскі шрыфт ведаюць. У газеце "Наша слова" зрэдку прыгадвалася пра беларускую лацінку і крыху падавалі прыклады адпаведнага пісьма. Таму, хто ведае беларускую мову, не цяжка чытаць і з лацінскага пісьма. Трэба знайсці месца ў газеце і даваць узоры пісьма беларускай лацінкай. Пра гэта, дарэчы, была і прапанова чытачоў!

Тут добра было б выкарыстоўваць матэрыялы з замежных выданняў, дзе скарыстана беларуская лацінка. Мяркую, людзі прачытаюць іх з цікавасцю.

Ёсць нямала людзей, якія сцвярджаюць, што ведаць беларускую мову — значыць палегчыць сабе вывучэнне польскай альбо чэшскай мовы. І я тое зразумеў даўно. Як і тое, што беларуская мова ні ў чым не саступае ні польскай, ні чэшскай, ні іншым мовам заходніх славян. Памянёныя народы — народы высокай культуры: дзяржаўнай у іх служыць нацыянальная мова. Таму выкарыстанне ў беларускай літаратуры, акрамя кірыліцы, лацінскага шрыфта павінна быць! Ды яно і раней уводзілася з мэтай пашырэння інфармацыйнай прасторы. Гэта звязанае з геаграфічным размяшчэннем Беларусі. А цяпер для Беларусі ўмовы складаюцца так, што, нягледзячы ні на якія рэферэндумы, усё роўна будуць сувязі не толькі з Расіяй, але і з Заходняй Еўропай мусяць умацоўвацца. Славяне Заходняй Еўропы разумеюць беларускую мову. Беларусам не цяжка зразумець іх.

Калі ў нас захацелі стварыць адзіны савецкі народ, дык за аснову прынялі расійскую мову. Беларускую пачалі называць "сельскай" альбо мужыцкай мовай. Пры тым замоўчвалі, што і расійская мова адносна нядаўна лічылася мужыцкай: быў час, калі кіруючае саслоўе Расіі не жадала размаўляць на роднай мове, грэбавала ёю. І тым не меней, грамадскі рух прывёў да росту патрыятычных настрояў і ўрэшце прызнання прыярытэту годнасці расійскае мовы.

Што да беларускай мовы, то іншы раз раздаваліся выказванні, што, маўляў, яе няма, а ёсць сумесь розных моў. Асабіста я гэтаму даўно не верыў. Я прыехаў у Беларусь у пачатку 70-х гадоў. Перад тым жыў і працаваў у Расіі і на Украіне, ведаў расійскую і ўкраінскую мовы. У Беларусі спачатку жыў у сельскай мясцовасці, у той час у вёсках было нямала людзей, якія нарадзіліся яшчэ ў мінулым стагоддзі. Дык вось я шмат разоў сам чуў, як старыя людзі, асабліва жанчыны, цудоўна гаварылі на беларускай мове і тым самым выхоўвалі ў роднай мове сваіх дзяцей і ўнукаў. Гэтыя людзі старэйшага пакалення былі зусім непісьменныя, але мову свайго народа ведалі.

У той час я і пачаў вывучаць беларускую мову — так мне захацелася, так падказалі абставіны жыцця і ўзаемаадносіны з мясцовымі людзьмі. Пачаў чытаць беларускамоўныя газеты, мяркуючы, што магу лёгка засвоіць беларускую мову. Але гэта аказалася зусім не проста. І вось тады стала асабліва ўвачавідкі, што гэта іншая мова, чымся расійская ці ўкраінская. Знаходзіліся людзі, якія раілі не марнаваць час на вывучэнне, казалі, што цяпер трэба ведаць толькі расійскую. Урэшце я паслухаўся такіх парадаў і вырашыў вывучаць польскую мову. Такі выбар я зрабіў не выпадкова: у 70-х гадах прадавалася шмат часопісаў і газет на замежных мовах, а сярод іх быў і часопіс "Дружба" ("Przyjaźń").

Пры першым жа знаёмстве з часопісам я звярнуў увагу на тое, што ёсць пэўнае падабенства ці сваяцтва польскай мовы з беларускай і расійскай, і я тады вырашыў вывучаць адначасна беларускую і польскую мовы.

Цяпер што тычыцца ўжывання іншаземнай лексікі ў беларускай мове. Калі паглядзець слоўнік польскай мовы, дык даволі хутка можна заўважыць шмат слоў неславянскага паходжання, якія з'яўляюцца агульнымі для расійскай і для беларускай моваў. Вось, напрыклад, словы: inżynier *інжынер*; pasport *пашпарт*; bank *банк*. Шмат слоў агульных з расійскай мовай, напрыклад: chlieb *хлеб*; woda *вада*; ryba *рыба*; noc (ноц) — *ноч*; dzień *дзень*. Шмат агульных слоў з беларускай мовай, напрыклад: powetrze *паветра*; praca *праца*; ranek *раніца*.

Трэба адзначыць, што палякам ніхто не навязваў ні расійскай, ні беларускай мовы. Падабенства вынікае ад агульных славянскіх каранёў ды патрэб суседскіх зносінаў.

Падсумую так. Славянскія нацыі сфармаваліся даўно. Сярод іх і беларуская, і сцвярджаюць, што ў беларусаў няма нацыянальнай мовы. Гаварыць можна толькі пра сваяцтва моваў, а не аб іх змешванні. Ведаючы беларускую і расійскую мовы, не цяжка авалодаць мовамі заходніх славян. Лічу, што беларусам гэта неабходна, — хоць бы з тае прычыны, што на прадпрыемствах нярэдка паступае тэхнічная дакументацыя на польскай і чэшскай мовах. Ведаючы лацінскі шрыфт, беларускую і расійскую мовы, не цяжка зразумець змест запісаў у дакументацыі. Увогуле ж беларусам па іх прыродзе і адукацыі не павінна быць цяжкасцяў у зносінах як з усходнімі, так і з заходнімі славянскімі народамі.

Хацелася б заўважыць яшчэ, што ў нашым друку мала пішуць пра значэнне, каштоўнасці кожнай нацыі, у тым ліку беларускай, у агульным прагрэсе супольнасці людзей. Навукай даказана, што гістарычны вопыт кожнай нацыі, культура кожнай нацыі — гэта каштоўнасці агульначалавечыя. Мова кожнай нацыі — гэта таксама набыты вопыт зносін паміж людзьмі, здабытак нацыі. Свядомым людзям зразумелая каштоўнасць кожнай нацыі: і на гэтай аснове міжнацыянальныя адносіны павінны быць толькі прыязнымі. Трэба мець на ўвазе, што кожная нацыя, якая склалася гістарычна, — гэта даволі ўстойлівае фармаванне, і спробы шавіністаў звесці на нішто якую-небудзь нацыю выглядаюць не толькі амаральна, але і небяспечна. Не кажучы пра тое, што гэта зусім не проста.

Закончыць свой допіс хочацца спадзяваннем, што беларускамоўную газету "Наша слова" з цягам часу зможа чытаць больш людзей, у тым ліку не толькі беларусаў па паходжанні, а сама беларуская мова ў сябе на радзіме будзе шырока папулярнай.

**Ф. ДЗЕВЯЦЬЯРАЎ,**
**ветэран працы.**
г. Рэчыца.

*З рэдакцыйнай пошты*

## ПАСЕЯЎ НАСТАЎНІК РАЗУМНАЕ, ДОБРАЕ, ВЕЧНАЕ...

***У рэдакцыю прыйшоў ліст, які нас вельмі ўзрадаваў. Папершае, ён засведчыў, што да кола нашых чытачоў далучылася яшчэ адна жывая душа. Вучаніца 11-га класа з в.Ляшчанка Шчучынскага раёна Каця Аксёнава прызнаецца, што зусім нядаўна ёй у рукі трапіла газета "Наша слова", якая яе зацікавіла. Яна схадзіла ў бібліятэку, перагарнула там падшыўкі газеты за мінулы і гэты год, і цяпер Каця — наша пастаянная чытачка. Другое, чым усцешыў нас яе ліст, — гэта сваім зместам і шчырасцю. Мяркуйце самі.***

Беларускую мову я чула з маленства. На ёй гаварылі мае бабуля і дзядуля, у якіх я гадавалася. У сем гадоў я пайшла вучыцца ў расійскамоўную школу, дзе правучылася чатыры гады, а з пятага класа ўжо вучылася ў новай школе, дзе навучанне вялося на беларускай мове.

Скажу шчыра, мне, як і многім іншым вучням, было цяжка ды і не зусім даспадобы. Мы нават знарок рабілі памылкі і пісалі на расійскі манер. Вось што зрабілі з намі чатыры гады русіфікацыі. На шчасце, на нашым шляху сустрэўся настаўнік Аляксандр Уладзіміравіч Кашэта, які і прывіў сваім вучням любоў і павагу да роднай мовы. А. У. Кашэта вёў у нас гісторыю. На яго ўроках было так цікава! Здавалася, наш настаўнік ведае ўсё на свеце, дасць адказ на любое пытанне. Ён так любіў сваю Бацькаўшчыну, быў выдатным краязнаўцам, шанаваў родную мову і заўсёды гаварыў толькі па-беларуску.

Адзін наш аднакласнік часта спрачаўся з настаўнікам наконт беларускай мовы. Ён быў адзіны з класа, хто стараўся гаварыць па-расійску. Але ён і сам не заўважаў, што пасля гутарак з настаўнікам пачынае размаўляць па-беларуску. Праўда, затым спахопліваўся і зноў пераходзіў на расійскую мову. Гэта было і смешна назіраць збоку і разам з тым крыўдна за хлопца.

Не, ніколі не зможа беларус гаварыць чыста па-расійску. Нам не змяніць характар, не перайначыць гісторыю. Наша мова будзе жыць, пакуль на ёй будзе гаварыць хоць адзін чалавек (але да гэтага, спадзяюся, не дойдзе). Яна не згіне, як бы яе ні зневажалі, ні затоптвалі ў бруд!

Ужо амаль два гады, як няма на свеце нашага добрага настаўніка, Чалавека з вялікай літары. Час ідзе, але зерняткі любові і павагі да роднай мовы, якія пасеяў у маім сэрцы А. У. Кашэта, усё растуць і мацнеюць. І я спадзяюся, што на нашай зямлі ёсць многа такіх, як мой настаўнік, хто абудзіў у маладых сэрцах пачуццё павагі, пашаны да матчынай мовы.

Наша мова — пяшчотная, ласкавая, мілагучная. Яна — цуд, дар Божы, скарб, які падаравалі нам зямля і неба. Яна пяшчотная, як пацалунак, які дорыць маці свайму немаўлятку. Яна ласкавая, як сонейка, якое лашчыць сваімі прамянямі ўсё жывое. Яна мілагучная, як срэбразвонны ручаёк. Дык хто ж давёў яе да сіроцкага стану?

Вядома, усім хочацца добра жыць, прыгожа адзявацца, смачна есці. Але чамусьці многія жыхары Беларусі не разумеюць самага, здаецца, элементарнага. Шчасце і дабрабыт можа існаваць толькі ў незалежнай краіне. А незалежнасць — гэта свая гісторыя, свая культура, свая мова, гэта калі людзі з'яўляюцца гаспадарамі свайго жыцця.

Я часта думаю: чаму ўсё радзей чуецца беларуская гаворка? Асабліва ў асяроддзі службовых асобаў, нібы яны забыліся, на якой зямлі жывуць і якому народу павінны служыць.

Часта можна ўбачыць пагарду на тварах "гарадскіх", калі тыя пачуюць "дзеравенскую" мову. Чаму звычайна гэтак званы "гарадскі" думае, што беларуская мова — мова селяніна-невука, які век жыве ў працы і брудзе? Хіба такая думка — не знявага да чалавека і роднай мовы? Ад усяго гэтага на сэрцы гэтак прыкра, што хочацца крыкнуць моцна і гучна, каб усе пачулі: "Людзі, што вы творыце з зямлёй-матухнай, з роднай мовай?"

Аднак, як прыемна, калі чуеш беларускую мову, асабліва цешыць,калі па-беларуску гавораць дзеці.

Любоў да мовы і сваёй Бацькаўшчыны трэба ўкладваць у чалавека з дзяцінства. Чалавек, які вырас, чуючы вакол сябе родную мову, ніколі не забудзе яе, не здрадзіць ёй.

Летась я была сведкай сцэнкі, якая зрабіла на мяне вялікае ўражанне. Было гэта на Радуніцу — дзень памяці памерлых. Мы ўсёй сям'ёй паехалі на радзіму татавых продкаў і разам з бабуляй пайшлі ў царкву. У час службы я выйшла на двор і прысела каля дзвюх дзяўчынак, якія знаёміліся між сабой. Адна з іх была з Менска, другая — з Ліды. Маю ўвагу заняла светленькая, вельмі прыгожа і модна апранутая дзяўчынка. Я пачула, што яна... гаворыць па-беларуску! Калі першая дзяўчынка запытала пра гэта ў яе, тая адказала: "Проста я люблю Беларусь і сваю родную мову".

І ад гэтых слоў мне стала неяк радасна і лёгка на душы, аж захацелася спяваць.

Людзі, не грэбуйце сваёй роднай мовай. "Дзяды і бацькі нашу мову стваралі, каб вечна звінела, была, як агонь", любіце матчыну мову, шануйце яе, і шчасце прыйдзе ў ваш дом!

*Уражанні*

## Сумная дэкарацыя

Ідзе сесія раённага Савета. Дакладчык, старшыня выканкама, выступае на расійскай мове — як і ўся сённяшняя "вертыкаль" знізу да верху, за рэдкім выключэннем. І дэпутаты, у большасці калгасна-саўгасная наменклатура, чыноўнікі раённых службаў з трыбуны, у спрэчках, так і "сыплюць" у залу альбо знаёмай, жахлівай сваёй убогасцю "трасянкай", альбо, з ліку маладзейшых выбраннікаў вёскі, расійскай мовай. Не даспадобы свая, родная, на якой гаварылі дзяды і прадзеды! А тут яшчэ беларусафобы-палітыкі і прыдворныя журналісты з расійскамоўных газет сталі пасля рэферэндуму палохаць нас "нацыяналізмам".

...Усё-такі адзін дэпутат, дырэктар сельскай сярэдняй школы, выступіў на беларускай мове. Больш "смелых" не знайшлося, таму яго голас прагучаў гэткай дэкарацыяй, нацыянальнай "застаўкай" на фоне расійскамоўнай аўдыторыі.

Між іншым, гэта ўжо мы праходзілі — у гады "развітога сацыялізму". З той толькі розніцай, што тады на таго, хто загаварыў з трыбуны на роднай мове, сёй-той з дэпутатаў адказваў яхідным смяшком, шушуканнем, поўнымі "класавай" непрымірымасці стрыманымі рэплікамі: "Вот и нацдемовец объявился".

Цяпер рэакцыя залы на беларускамоўнае выступленне без якіх-небудзь рэцыдываў дрымучай беларусафобіі. І ўсё ж гэта — сумныя беларускія рэаліі, ад якіх нікуды не дзенешся і якія здаліся б дзікунствам для немца, англічаніна ці француза.

**М. ТЫЧЫНА.**

## Беларуская дыяспара зробіць усё, каб вам дапамагчы

Сярод удзельнікаў шэсця ў абарону дэмакратыі і схопленых міліцыяй на менскіх вуліцах 8 снежня апынуўся і старшыня Беларускага культурнага таварыства з Калінінграда (Расія) Ігар Шаховіч. Суткі Ігар правёў у камеры ізалятара, пасля чаго суд прызначыў яму пакаранне ў 300 тысяч рублёў штрафу. Наш карэспандэнт сустрэўся са спадаром Шаховічам у будынку суда.

**— Скажыце, што прывяло вас у такі час на Беларусь?**

— Я прыехаў па справах рэалізацыі культурнага праекта. У Калінінградзе будзе ўсталяваны помнік Ф. Скарыну. Мы прыехалі з архітэктарам горада, каб азнаёміцца з праектам, над якім працавала мясцовая творчая група і макет якога я павінен завезці ў Калінінград.

**— Ну і як вас сустрэла Радзіма?**

— Гэта жахліва, тое, што адбываецца зараз у Беларусі, яшчэ трэба асэнсаваць, але, на мой погляд, усё нагадвае вяртанне ў гады бальшавіцкага цемрашальства.

**— Чым можа дапамагчы нашай апазіцыі беларуская дыяспара?**

— Я думаю, мы здолеем выступіць у мясцовым друку і на радыё, каб праінфармаваць грамадзян Расіі пра той "беспредел", што адбываецца ў суседняй славянскай краіне. Мы зрабілі ўсё, што ў нашых сілах, каб дапамагчы патрыётам у Беларусі, якія пачалі змаганне з рэжымам.

**— Згуртаванне "Бацькаўшчына" збіраецца летам наступнага года правесці ІІ з'езд беларусаў свету ў Менску. Лукашэнка неяк назваў І з'езд, які адбыўся ў 1993 г., "паліцэйскім зборышчам". Ці варта ў такіх умовах праводзіць яго ў Беларусі?**

— Я думаю, што з'езд не адбудзецца.

**Размаўляў Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

*Згадкі*




# Беларуская рэклама

У 1906 годзе пачала выходзіць першая беларуская легальная газета "Наша Доля". Першы яе нумар выйшаў у верасні таго ж года. З выданнем гэтай газеты звязаны і пачатак беларускай рэкламы — рэкламы на беларускай мове. Ужо ў першым нумары — датуецца ён першым вераснем — уся апошняя старонка была аддадзена рэкламе. Усяго ў першым нумары "Наша Доля" змясціла шэсць абвестак. Дзве з іх — на беларускай мове.

Самая вялікая і прадстаўнічая з іх рэкламавала прылады працы, розныя гаспадарчыя машыны — малатарні, арфы, сячкарні, якія прадаваліся ў краме сельскагаспадарчых прыладаў вядомага віленскага прадпрымальніка Зыгмунта Нагродскага. Зыгмунт Нагродскі, як вядома, быў сябрам Францішка Багушэвіча, спрыяў беларускаму нацыянальнаму руху, як мог падтрымліваў яго матэрыяльна.

Без перабольшання, Зыгмунта Нагродскага можна лічыць першым беларускамоўным рэкламадаўцам, заснавальнікам беларускай рэкламы. Вось як гучыць першая яго беларускамоўная рэклама:

**ЗЫГМУНД НАГРОДЗКІ**

*аб'яўляе, што ў яго складзе*
*ў ВІЛЬНІ на ЗАВАЛЬНАЙ вуліцы № 11*
*— прадаюцца вельмі добрага гатунку ГАСПАДАРСКІЯ МАШЫНЫ — МАЛАЦІЛКІ ФАБРЫКІ "БАДЭНЯ" ручныя і манежныя*
*МАНЕЖЫ тое самай фабрыкі, вельмі лёгкія да працы*
*СЯЧКАРНІ Бенталя Бадэня і іныхь фабрык*
*АРФЫ (веялкі) рознай вялічыні амерыканскай выдумкі.*

На жаданне Зыгмунд Нагродзкі высылае дармо кніжкі, у которых напісана цана машын.

Другая беларускамоўная рэклама пра беларускія кніжкі, якія прадаваліся ў літоўскай кнігарні М. Пясецкай-Шляпеліс. Сярод іх — "Элементар беларускі", "Казкі", "Вязанка", "Дудка" Бурачка-Багушэвіча, "Скрыпка Беларуская", "Смык Беларускі", "Песьні", "Што такое свабода".

З такіх вось аб'яў пачыналася беларускамоўная рэклама. Гэта яе выток. Пачыналася яна, як бачым, з клопату і пра хлеб надзённы, і пра хлеб духоўны, як з'яву адзіную і непадзельную.

Аднак вернемся да рэкламадаўцы Зыгмунта Нагродскага. Што яшчэ прадавалася ў яго-най краме?

З іншых абвестак даведаемся: у краме Нагродскага можна было набыць не толькі ручныя і конныя малатарні, але штыфтовыя і цэпавыя, а таксама секачы, нажы для сячкарняў, сярпы літоўскія, косы стырыўскія, плугі адно- і двухскібавыя, адно- і двухконныя, бароны звычайныя і спружынавыя, культыватары, абсыпнікі, сейнікі і вальцы;

суперфасфат, томасшляк, каініт, паташ, салітру, гіпс, вапну; цэнтрафугі, бойкі для масла, выціскачкі, кублы, жбаны, цадзілкі, вуллі розных сістэмаў, цэнтрафугі, сеткі пчалярскія, бляхі для адгародак, штучны воск, сеўнікі і палольнікі, распыльнікі, сікаўкі, пырскаўкі, рыдлёўкі, матычкі, грацы, ножыкі, маторы нафтавыя для млыноў і круперняў, малатарняў, млыны патэнтаваныя...

Друкуючы сваю рэкламу ў "Нашай Ніве", Зыгмунт Нагродскі спрыяў развіццю беларускай тэхнічнай сельскагаспадарчай лексікі, спрыяў яе ўсталяванню ў нашай мове.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

*Замежжа*

# Карэя: памяць аб здрадзе

Напрыканцы 1996 года з Японіі ў сталіцу Паўднёвай Карэі прыехаў Лі Ку — нашчадак дынастыі Лі, якая валадарыла Карэяй з XIV стагоддзя па XX. Адразу з аэрапорта Лі Ку з эскортам паліцыі адправіўся да грабніцаў сваіх продкаў, якія знаходзяцца ў адмысловых храмах, пабудаваных у цэнтры Сеула блізу каралеўскага палаца. У цырымоніі ўшанавання памяці каралеўскага рода ўзялі ўдзел каля трох соцень яго нашчадкаў з карэйскай лініі — пераважна буйных землеўладальнікаў і ўплывовых бізнесменаў. Усе яны схілілі галовы перад Лі Ку — афіцыйным нашчадкам дынастыі, якая валадарыла ў краіне шэсць стагоддзяў, а сёння мае значны ўплыў на эканоміку і збіраецца пашырыць яго пасля далёкага, але непазбежнага ўз'яднання Паўночнай і Паўднёвай Карэяў.

На ўрачыстай цырымоніі ўшанавання памяці сваіх продкаў Лі Ку ўпершыню падзяліўся з усімі сваімі далёка сягаючымі планамі: "Неабходна пераадолець праблемы, з якімі цяпер сутыкаюцца і Паўднёвая, і Паўночная Карэі. Мы мусім жыць у міры і дзеля дасягнення гэтай мэты я гатовы ахвяраваць жыццём", — сказаў ён. Сям'я ўспрыняла гэтую заяву з разуменнем. А як сустрэлі на гістарычнай радзіме спадкаемцу трона іншыя яго суайчыннікі?

Большасць з іх не выказала ніякай цікаўнасці да вяртання ў краіну нашчадка каралеўскага роду. Гэта было нечакана ўжо таму, што карэйскі народ ведае і шануе сваю гісторыю. Павага да сябе карэйцаў настолькі высокая, што яны, займаючыся рэстаўрацыяй палаца каралёў ды іншых гістарычных пабудоваў сваёй сталіцы, руйнуюць дамы, узведзеныя там японскімі каланізатарамі. Але да асобаў каралеўскай крыві карэйцы ставяцца без вялікай павагі. Імя Лі Ку мала каму вядомае на радзіме. Чаму?

Пасля захопу Карэі японцамі, які адбыўся ў 1910 годзе, дзеда Лі Ку — тагачаснага валадара Карэі — вывезлі ў Токіо. У Японіі ён быў закладнікам, але вельмі шанаваным. Магчыма, менавіта таму палон не стаў перашкодай на шляху мноства шлюбаў, якія з таго часу адбыліся паміж прадстаўнікамі кіруючых дынастыяў абедзвюх краінаў — заваяванай і заваёўніцы. Менавіта гэта стала адной з прычынаў таго, што пасля аднаўлення ў 1945 годзе незалежнасці Карэі яе народ вырашыў скасаваць інстытут манархіі.

Кароль здрадзіў краіне і народу, ён не абараніў іх ад ворагаў. Парадніўшыся з японцамі, нашчадкі дынастыі страцілі нацыянальную чысціню, самі стаўшы японцамі, — так лічыць большасць карэйцаў.

Але чаму карэйцы, абыякавыя да справаў каралеўскай дынастыі, затое вельмі балесна ўспрымаючыя падзел сваёй краіны, не выказалі цікаўнасці да гатоўнасці Лі Ку пакласці жыццё за справу ўз'яднання? Прычына таму — разуменне: нашчадак каралёў выдае жаданае за рэчаіснае. Яны памятаюць, што ў 60-я гады Лі Ку каля 10 гадоў жыў у Паўднёвай Карэі, выклікаўшы шмат у каго незадаволенасць сваімі палітычнымі заявамі. Таму пазней Лі Ку зноў вярнуўся ў Японію. Там ён трапіў пад уплыў японскага шамана, які і пераканаў Лі Ку ў тым, што яго пакліканне — выратаванне карэйскага народа.

Таму сёння памкненні нашчадка дынастыі падтрымліваюць ці не выключна яго сваякі. Карэйскі народ канчаткова адмовіўся ад здрадзіўшай яму манархіі.

**Падрыхтаваў У.П.**

*Нацыянальнае жыццё*

Развітанне з 1996-м годам у нас адбываецца з адчуваннем, якога ў людзей даўно не было. Нібы не спраўдзіліся нейкія вялікія надзеі. Як быццам увогуле штосьці запаветнае страчана назаўсёды. Страчана надзея на цуд? Так, той-сёй спадзяваўся на чарговы рэферэндум: вось ён пройдзе, як пажадаў ягоны ініцыятар — і вокамгненна знікнуць галодныя, беспрацоўе, масавае п'янства, махлярства, рэкет, карупцыя і г. д. Бо перастануць жа блытацца пад нагамі ў "бацькі " партыйныя апазіцыянеры ўсялякія, пачынаючы ад камуністаў і канчаючы бэнээфаўцамі, а галоўнае — крыкуны-дэпутаты, што прымаюць "не тыя" законы. Перасталі. Дарэчы, апошнія ў пераважнай большасці, здаецца, ну ніяк не верылі, што студзёная віхура рэферэндуму бязлітасна выкіне іх з утульных крэслаў пад халодны дождж позняй восені. Спадзяваліся, што выратуюць надзвычай развітыя пагаджальніцкія здольнасці? Ці зноў жа на цуд з Масквы? Бо навыперадкі ж перад тым кляліся і кляліся ў адданасці інтэграцыі з апошняй ажно да поўнага "воссоединения", па-расійску кажучы.

Ну вось, заўважыць прыдзірлівы чытач, і аўтар гэтых радкоў не пазбег расійскага ўплыву. Лексічнага. Навошта, калі ёсць і беларускае добрае слоўца — паяднанне? Але няпэўная па наступствах, працягвае "раскручвацца" — насельніцтва памалу-паціху прывучаюць да непазбежнасці паяднальнага рэферэндуму — і тады, маўляў, яно, насельніцтва, праскочыць прама ў "светлае мінулае", назад у Савецкі Саюз, толькі нейкі "абноўлены". На жаль, такое "агучваецца" не нейкімі мясцовымі прыхільнікамі Жырыноўскага, а асобамі з блізкага атачэння Прэзідэнта.

Але ці так ужо прагнуць заключыць беларусаў у свае шырокія абдымкі браты-расійцы? Ці супадае іхняе меркаванне з тым, што кажуць Бабурын з Жырыноўскім ці Шахрай з Мігранянам, якія ў свой час актыўна падштурхоўвалі крамлёўскае кіраўніцтва да нападу на Чачню? Расійскія ўплывовыя сродкі масавай інфармацыі з выдатным аналітычным апаратам малююць крыху іншую карціну грамадскага настрою ў Расіі, чымся вышэйпамянёныя палітычныя дзеячы. Апошнім часам з шэрагам сур'ёзных публікацый на гэты конт выступіла і сусветна вядомая "Литературная газета". Вельмі красамоўна, напрыклад, азаглавіў свой артыкул яе палітычны аглядальнік Дзмітрый Шушарын: "Небяспека прыходзіць з Захаду". Маючы, аднак, на ўвазе не звычны па савецкім часе "гнілы капіталістычны Захад", а...

# Небяспека для Расіі прыходзіць з Беларусі?

**Пераднавагодні агляд-роздум**

не хочацца ўжываць яго ў гэтым кантэксце, вось у чым справа. Ну, а "ўплыў" сапраўды спрацоўвае ўжо ці не на ўзроўні падсвядомасці. Як яго не набыць пры адзінай доўгатэрміновай інфармацыйнай прасторы, не кажучы пра нядаўні шматгадовы эсэсэраўскі вопыт.

Мы яшчэ да канца не ўсвядомілі таксама, што ўвогуле з намі, "суверэннымі" нібыта асобамі робяць мэтанакіраваныя радыё- і тэлеперадачы з раніцы да позняй ночы. У наш культурны ўжытак зусім нядаўна ўвайшло слова "замбіраванне", ды і то дзякуючы хутчэй амерыканскім кінафільмам. Ці ж не дзіва, што звычайна рахманыя простыя жанчынкі з вёсак, куды і хлеб прывозяць ці не раз на тыдзень, ішлі і галасавалі на рэферэндуме не толькі на шкоду сабе, але і сваім дзецям, пазбаўляючы іх магчымасці кожныя чатырыпяць гадоў хоць неяк удасканальваць заканадаўства з дапамогаю выбараў у Вярхоўную раду такіх дэпутатаў, якія б адстойвалі іх інтарэсы і наказы, пагаджаючы гэта з інтарэсамі іншых сацыяльных слаёў грамадства. Не, галасавалі так, як ім параілі па тэлевізары. Мала таго, некаторыя станавіліся адначасова крайне ваяўнічымі. Настолькі, што, як сведчаць журналісты, гатовыя былі ісці на дэмакратаў і "апазіцыянераў" са зброяй у руках з лозунгамі "на Салаўкі іх!", "Перастраляць усіх, няма чаго цырымоніцца!"

Не будзем тут многа казаць пра вынікі рэферэндуму ў параўнанні з папярэднімі сацыялагічнымі даследаваннямі беларускага грамадства. У незалежных назіральнікаў на гэты конт зробленыя свае вывады. Нарэшце не без дай прычыны катэгарычна не прызналі вынікаў нашага народаапытання краіны Заходняй Еўропы, а таксама ЗША. Затое прызнала афіцыйнае кіраўніцтва Расіі. Так было задумана? Магчыма. Нездарма і ўплывовы дэпутат Дзярждумы Расіі, прадпрымальнік Канстанцін Баравы, які прыязджаў да нас вывучаць становішча, і партыя "Яблоко" вядомага расійскага палітычнага і дзяржаўнага дзеяча Грыгорыя Яўлінскага (які ўвогуле не супраць, дарэчы, умацавання "вялікай" Расіі, толькі без прымусу) цвёрда пераканаными: з дэмакратычнай часткай Беларусі абышліся "па-здрадніцку". Дадамо, з тымі, хто спадзяваўся ўсталяваць у нас дэмакратычны лад з важкай "падказкі" Прэзідэнту з вуснаў "вялікага брата", хто лётаў і лётаў у Маскву, абдымаючы і цалуючы там усіх, спрэс да крамлёўскіх клеркаў, каб наймацней пераканаць, што ён з сябрамі-дэпутатамі і ёсць самы-самы прыхільнік інтэграцыі-"воссоединения", вось толькі дапамажыце ўтрымаць лейцы вышэйшай улады ў Беларусі. Але афіцыйная Масква вырашыла зрабіць стаўку на таго, хто падаўся ёй больш зручным ды здольным трымаць гэтыя лейцы, і тут проста недарэчна крыўдаваць на крамлёўскіх кіраўнікоў. Ім прапанавалі магчымасць выбраць — яны гэта зрабілі, няхай сабе традыцыйна ў візантыйскім стылі. Размова цяпер павінна ісці пра іншае. А менавіта пра далейшае развіццё падзей у бок яшчэ больш цеснага "воссоединения" ажно да зліцця ў адно цела — "славянскае" /!/ з Расіяй, каб яна зноў стала "вялікай". Далося ж ініцыятарам гэтага працэсу тое "славянства". У той час як у Расіі жывуць дзесяткі народаў іншага карання, прычым на сваіх этнічных тэрыторыях. Як будуць у новых стасунках паводзіць сябе яны? Наўрад ці пакорліва. Тым не меней ідэя, Беларусь. Каб на гэты конт не ўзнікала ніякага сумніву, артыкулу нададзены яшчэ і выразны падзагаловак, які даём на мове арыгіналу: "Еще никто не доказал, что союз с Белоруссией (не паяднанне нават, звернем увагу. — **У. А.**) — благо для всех". Так, піша аўтар, магчыма саюз той на першым часе будзе і сапраўды выгадным для "трубы Чарнамырдзіна" ці купкі генералітэту, а вось расійскаму народу — наўрад. "Расія цяжка і, на жаль, неасэнсавана, — заўважае аўтар, — набывае новаеўрапейскую дзяржаўнасць — Беларусь жа адмаўляецца нават ад нацыянальнага сцяга, мяняючы яго на штучны савецкасаюзны прапар, па-ханжаску зняўшы толькі серп ды молат". Але гэтага мала, працягвае аналітык "Литературной газеты", вышэйшае кіраўніцтва Беларусі "імкнецца да разбурэння не толькі ўласнай дзяржавы. У яго і разам з маскоўскімі саюзнікамі адна мэта — разбурэнне дзяржавы Расійскай". І працягвае: таму "інтэграцыя з Беларуссю Расіі не проста нявыгадная — небяспечная. Таму што ворагі Расіі — гэта тыя, хто марыць пра аднаўленне, няхай нават у выраджавай форме, Савецкага Саюза, квазідзяржаўнага таталітарнага стварэння, варожага ўсім нацыям, што перашкаджала нацыянальнаму развіццю народаў, якія нават і не ўваходзілі ў Саюз, але былі ўцягнутыя ў сферу яго ўплыву".

Аўтар артыкула "Небяспека прыходзіць з Захаду" падкрэслівае таксама, што не варта расійцам умешвацца ва ўнутраныя клопаты беларусаў: калі хочуць такога рэжыму ў сябе, "значыць яны таго заслугоўваюць". Хочуць мець аграрна-савецкі лад, саўгас замест дзяржавы — іх справа. А вось "інтарэсы Расіі — у захаванні свайго твару, цывілізацыйнай самаідэнтыфікацыі, сваёй дзяржаўнасці".

Дадамо, што настроі цэлага шэрагу аналітыкаў асабліва перамяніліся адносна магчымага пашырэння Расіі шляхам новых "воссоединений" з суседзямі пасля чачэнскай бойні, якая мала таго што прынесла вялікія матэрыяльныя і чалавечыя страты, але і дэмаралізавала расійскую армію, насцярожыла ці ўвогуле адштурхнула многіх з суседзяў, у тым ліку ўкраінцаў.

Але нават безадносна да таго, што думае пра нас грамадскасць у Расіі, беларусам трэба ўрэшце сур'ёзна ўзважыць магчымыя наступствы ад далучэння да каго б там ні было вось у якім плане. Калі на пачатку распаду СССР Беларусь была прывабнай для інтэграцыі ў эканамічным плане, бо мела гаспадарку, добра падрыхтаваную для развіцця рынкавых адносін, то цяпер сітуацыя іншая. Беларусы зараз у працэсе нейкага далучэння ў любым выпадку будуць выглядаць бедным прымаком, які, растранжырыўшы ўласны спажытак, набіваецца на сталаванне ў чужую сям'ю. І няхай ён прывучыцца размаўляць на мове гэтай сям'і і стане, гнучы хрыбет, усяляк падлажвацца да парадкаў гаспадароў, у любы момант давядзецца чакаць папроку за кожны кавалак хлеба, які яму грэбліва працягнуць, а то і проста кінуць. Хочуць беларусы гэтага? Ці лепей хоць цяпер спыніць разор ва ўласнай нацыянальнай хаце і пачаць рупліва даглядаць уласную нацыянальную ніву, чымся бясконца разяваць рот на суседскі каравай?

**Уладзіслаў АСІНАВЕЦ.**

# Веруем

## Новыя святары

7 снежня ў менскім катэдральным саборы Найсвяцейшай Дзевы Марыі кардынал Казімір Свёнтак высвяціў на святароў чатырох выпускнікоў гарадзенскай каталіцкай духоўнай семінарыі. Высвячэнне новых ксяндзоў у каталіцкім касцёле на Беларусі — падзея не звычайная. Варта нагадаць, што са 180-ці святароў, якія працуюць сёння ў 300 парафіях краіны, толькі 60 з'яўляюцца грамадзянамі Беларусі, таму патрэба ў новых мясцовых пастырах заўжды была надзвычай вострай. Не сакрэт, што для многіх польскіх ксяндзоў накіраванне ў Беларусь служыць пакараннем за розныя ўчынкі. Такія пастыры едуць сюды без усялякай ахвоты і разглядаюць працу ў нашай краіне як месца часовай высылкі. Ні пра якое разуменне патрэбаў паствы тут гаварыць не выпадае. Таму ў 1990 годзе стараннямі тагачаснага біскупа Тадэвуша Кандрусевіча ў Гародні адкрылася духоўная семінарыя, якая пачала рыхтаваць мясцовыя кадры.

У той час у колах беларускай каталіцкай інтэлігенцыі і з'явілася спадзяванне, што семінарыя стане не толькі цэнтрам падрыхтоўкі новых святароў, але і асяродкам беларускай культуры. Аднак гэтага не адбылося. З прыходам у 1991 годзе новай касцёльнай адміністрацыі і пераводам біскупа Кандрусевіча на працу ў Маскву адносіны некаторых семінарыйных выкладчыкаў да студэнтаў, якія адкрыта заяўлялі аб сваім беларускім патрыятызме, сталі негатыўнымі. Па сутнасці, гэта сталася працягам палітыкі сумнавядомага віленскага мітрапаліта Рамуальда Ялбжыкоўскага, які ў міжваенны час кіраваў каталіцкім касцёлам у Заходняй Беларусі.

У гэтых умовах многія студэнты-патрыёты вырашылі сцярпець любыя крыўды, але давучыцца да канца і стаць святарамі. У прыватных гутарках яны казалі, што вернікам патрэбныя беларускія пастыры і яны хочуць, каб касцёл набыў нацыянальнае аблічча. Дзеля гэтага мы гатовы часова пацярпець, казалі клірыкі. Разам з тым, яны актыўна працавалі са сваімі калегамі-студэнтамі, і гэтая праца дала плён. Мовай зносінаў семінарыстаў стала беларуская, а патрыятычна настроеных студэнтаў стала ў шмат разоў болей, як было пяць гадоў таму. Летась у Менску святарскі сан прыняў першы выхаванец семінарыі. А ў мінулую суботу ў прэзбітары былі рукапаложаныя дыяканы Аляксандр Чайкоўскі, Юры Касабуцкі, Ян Крэміс і Уладзіслаў Шышла. Урачыстую святую імшу, удзел у якой узяло звыш трох соцень вернікаў, адправілі менска-магілёўскі мітрапаліт кардынал Казімір Свёнтак, нунцый Ватыкана арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі ў саслужэнні трох дзесяткаў святароў. На жаль, добрая традыцыя адпраўлення ўрачыстай літургіі, на якой прысутнічаюць вернікі розных нацыянальнасцяў, на лацінскай мове на гэты раз была парушана. Невядома, з якой прычыны імша адпраўлялася па-польску, праўда, біблійныя чытанні, казанне кардынала і каментар абраду святарства гучалі па-беларуску. Мітрапаліт Свёнтак у сваёй гаміліі спыніў увагу прысутных на таінстве святарства, якім надзяліў Госпад Ісус Хрыстос сваіх вучняў-апосталаў, а тыя ў сваю чаргу перадалі гэтую таямніцу наступным пакаленням. "Сёння яе прымаюць чацвёра маладых людзей, — сказаў кардынал, звяртаючыся да ксяндзоў, — прыміце іх у сваю святарскую сям'ю і па-бацькоўску дапамажыце ім у новым жыцці". Ерарх таксама заклікаў вернікаў нястомна маліцца за новапасвечаных ксяндзоў, а таксама за новыя святарскія пакліканні. У звароце да нэапрэзбітэраў кардынал выказаў спадзяванне, што яны будуць годнымі свайго сану і прыкладуць усе свае сілы ў справе служэння Богу і людзям.

Пасля заканчэння абраду новых ксяндзоў цёпла павіншавалі арцыбіскуп Грушоўскі і калегі-святары. Кардынал Свёнтак быў моцна ўзрушаны. Седзячы ў сваім крэсле, ён на нейкую хвіліну заплюшчыў вочы і апусціў галаву. Магчыма, у гэты момант ён узгадаў сваё ўласнае рукапалажэнне ці той час, калі ў сібірскіх лагерах марыў вярнуцца на Беларусь і ўбачыць росквіт касцёла ў вольнай краіне.

Потым новапасвечаныя ксяндзы прыступілі да алтара і адправілі першую ў жыцці Святую ахвяру. У канцы ад імя новых святароў выступіў ксёндз Юры Касабуцкі. Шчыра кажучы, цяжка было зразумець логіку ў чарговай польскай і беларускай моваў у яго прамове. Так, словы, скіраваныя да духавенства, гучалі па-польску, а да бацькоў, сяброў і вернікаў — па-беларуску. Быццам, усе святары толькі ўчора прыехалі на Беларусь і ні слова не разумеюць на мове асноўнага этнаса. Пасля заканчэння ўрачыстасці я папрасіў падзяліцца сваімі ўражаннямі навапасвечанага ксяндза Аляксандра Чайкоўскага. Ён сказаў, што гэты дзень для яго незвычайны. Сёння ён атрымаў магчымасць спавядаць людзей, адпускаць ім грахі, несці духоўную паслугу — усё тое, да чаго айцец Аляксандр рыхтаваўся пяць гадоў. "Я святар, — казаў ён далей, — і у нацыянальным пытанні буду кіравацца словамі апостала Паўла: "для зялінаў я стаў зялінам, для жыдоў — жыдам", але маёй беларускасці ніхто ў мяне не адбярэ!"

**Язэп СІНІЦКІ.**

## Гуманітарны праект для дзяцей

5 гадоў працуе на паліграфічным рынку краіны выдавецкі аддзел Беларускай каталіцкай грамады. За гэты час невялікім творчым калектывам, які ўзначальвае дырэктар Менскага Літаратурнага музея М. Багдановіча Алесь Беляцкі, падрыхтавана і выдадзена больш двух дзесяткаў кніг і часопісаў рэлігійна-асветніцкага характару. Адноўлены альманах "Хрысціянская думка" стаў першым у Беларусі акадэмічным выданнем літаратурна-філасофскага накірунку, якім зацікавіліся замежныя навукоўцы. Было перавыдадзена нямала работ з творчай спадчыны беларускіх рэлігійных дзеячаў першай паловы XX стагоддзя: ксяндзоў Адама Станкевіча, Канстанціна Стэповіча (літаратурны псеўданім Казімір Сваяк), Язэпа Рэшаця, а таксама шмат кніг сучасных аўтараў. Напярэдадні свята Божага Нараджэння ў свет выйшаў сцэнар містэрыі "На Калядзе" менскага аўтара Эдуарда Акуліна. Летась пачаў рэалізоўвацца буйны і бадай самы ўдалы праект выдання рэлігійнай літаратуры для дзяцей у супрацоўніцтве з аўстрыйскімі партнёрамі. З выдавецтвам каталіцкай Грамады навязаў кантакт пробашч адной з парафій горада Зальцбурга ксёндз Якаб Фёрг, які прапанаваў выдаць на беларускай мове кнігу аўстрыйскай аўтаркі Ленэ Маер-Скуманц. Пісьменніца жыве і працуе ў Вене і за свае работы для дзяцей і падлеткаў не раз атрымлівала прэстыжныя літаратурныя прэміі. Фінансавае забеспячэнне праекта цалкам узяў на сябе аўстрыйскі бок, але выставіў адну ўмову — большая частка накладу павінна быць бясплатна перададзеная школам, бібліятэкам і дзіцячым дамам Беларусі. Так у 1995 годзе супольнымі намаганнямі была выдадзеная кніжка "...Калі ты так думаеш, Божачка". Прыкладна ў той жа час гэтая кніга выйшла таксама ў Летуве, Латвіі, Украіне і Расіі ў рамках праекта дапамогі дзецям посткамуністычных краін Усходняй Эўропы. Беларускі варыянт выдання (пераклад з нямецкай Сяргея Шупы) быў прызнаны аўстрыйскімі калегамі найлепшым. У гэтым годзе выдавецтвам была выпушчаная другая кніга спадарыні Скуманц пад назвай "Якаб і Катарына", а ў наступным плануецца выдаць і трэцюю кнігу пісьменніцы. Характэрнай асаблівасцю стылю аўтара з'яўляецца тонкае адчуванне душы дзіцяці. У сваіх кнігах яна не толькі мадэлірye сітуацыі паводзінаў дзяцей паміж сабой, але і паказвае іх узаемаадносіны з Богам. Яе героі вядуць з Богам пастаянныя дыялогі, задаюць яму звычайныя дзіцячыя пытанні. Пісьменніца паказвае Ісуса як добрага сябра і дарадчыка, прысутнасць якога побач дзеці адчуваюць пастаянна. Героі кніг пазнаюць Бога праз розныя з'явы, напрыклад, прыроду, і такое пазнанне для дзяцей бадай найбольш дасканалае. Падобны падыход да Бога ў літаратурных творах беларускім аўтарам абсалютна не ўласцівы, і гэта робіць кнігі Ленэ Маер проста ўнікальнымі. Для нашых чытачоў можа быць нечаканай сітуацыя, калі ўсе члены сям'і з'яўляюцца вернікамі, прычым абсалютна пазбаўленыя комплексаў, уласцівых нашаму грамадству. Разам з тым аўтар не навязвае чытачу свае рэлігійныя пераканнні. Вельмі далікатна і даходліва перад дзецьмі ставіцца пытанне: "Як ты асабіста ставішся да Бога, да Творцы, які стварыў гэты Сусвет з усёй яго прыгажосцю?" Ненавязлівая маральнасць і духоўнасць кніг з'яўляюцца галоўным набыткам яе аўтара. Гэтыя выданні цяжка назваць у прамым сэнсе рэлігійнымі, а тым больш яны не навязваюць пагляду пэўнай канфесіі. Яны хутчэй творы духоўна-эстэтычнага накірунку, і іх мэта навучыць пасябраваць маленькага чытача з яго Стварыцелем. Наогул, як гаворыць спадар Беляцкі, супрацоўніцтва з аўстрыйскімі партнёрамі мае добрую перспектыву. Да выдавецкага праекта ўжо далучыліся рэдакцыя аўстрыйскай "Kirche Zeitung" і шэраг хрысціянскіх дабрачынных фондаў. Падобная ўніверсальная літаратура нашым людзям вельмі неабходная. Такія кнігі станоўча ўспрымаюцца вернікамі розных канфесій, сведчаннем чаго можа служыць хуткае знікненне іх паасобнікаў з паліц кнігарняў. Ёсць звесткі, што выданнямі зацікавіліся некаторыя некаталіцкія хрысціянскія супольнасці. Можна толькі парадавацца поспеху выдавецтва, бо праз рэалізацыю такіх праектаў закладваюцца асновы міжканфесійнага супрацоўніцтва і экуменічнага дыялогу.

Каталіцкі касцёл Аўстрыі ўвогуле вельмі шмат увагі ўдзяляе справе гуманітарнага супрацоўніцтва з Беларуссю. Так, аўстрыйскае аддзяленне дабрачыннай каталіцкай арганізацыі "Caritas" дапамагае станаўленню падобнай структуры ў нашай краіне. У Менску адкрыта некалькі бясплатных сталовак для маламаёмных людзей, шмат сродкаў выдаткоўваецца аўстрыйскім бокам на пастаўку медыкаментаў і абсталявання беларускім шпіталям. А ў хуткім часе ў Бараўлянах пад Менскам павінна адкрыцца некалькі дамоў для дзяцей-інвалідаў, якія прыязджаюць на абследаванне ў анкалагічны цэнтр. І гэты праект, відавочна, не апошні.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## Секты

Школа — так перакладаецца слова "секта". Менавіта ў выглядзе мноства розных сектаў — анціяхійскай, александрыйскай ды іншых — існавала на пачатку новай эры хрысціянства, і ўсе гэтыя школы былі часткамі адзінай Царквы. Негатыўны сэнс слова "секта" набыло пазней, калі з адзінай плыні хрысціянства паспрабавалі вылучыцца супольнасці, лідэры якіх трактавалі дагматы веры па-свойму, неадпаведна канонам.

Што такое сённяшнія секты і ці маюць яны, нягледзячы на хрысціянскія назвы і сімволіку, нейкае дачыненне да хрысціянства?

У 1954 годзе група прыхільнікаў навукі Рона Хабарда заснавала ў Лос-Анджэлесе першую царкву саенталогіі. У наступныя гады падобныя супольнасці пачалі ўзнікаць па ўсіх ЗША, а потым і па-за іх межамі.

Паводле сведчанняў лекараў, што даглядалі Рональда Хабарда, ён быў чалавекам з не цалкам здаровай псіхікай. У 1947 годзе Хабард лекаваўся ў псіхіятрычным шпіталі. Як успамінае сын стваральніка саенталогіі, свае так званыя навуковыя адкрыцці ягоны бацька рабіў у стане глыбокага наркатычнага ап'янення. Аднак гэта не замінала яму аж да 1966 года ўзначальваць арганізацыю саенталогаў. У 1986 годзе мульцімільянер Хабард памёр, але распрацаваная ім рэлігійная тэхналогія перажыла свайго стваральніка, пашырыўшыся ў свеце і трапіўшы таксама і ва Усходнюю Эўропу. Што нясе яна людзям?

5 жніўня 1994 года намеснік расійскага міністра аховы здароўя Агапаў даў пісьмовую згоду на выкарыстанне хабардаўскай тэхналогіі дэтаксікацыі — вылучэння з арганізма шкодных рэчываў — у дачыненні да 30 дзяцей узросту 12-14 гадоў. Як адбіўся на іх стане гэты эксперымент, згода на правядзенне якога была атрыманая вельмі хутка — за дзесяць дзён? Адмоўна да такой ступені, што 19 ліпеня 1996 года міністр аховы здароўя Расіі Царэгародцаў падпісаў загад № 254 аб скасаванні метадычных рэкамендацыяў саенталагічнай праграмы. У інфармацыйным дадатку да загада гаварылася: "Метадалогія, што прэтэндавала на медычную каштоўнасць, не здолела прайсці дзяржаўнага ліцэнзавання ні ў адной краіне свету".

Больш таго, зробленыя ў шэрагу краінаў дзяржаўныя экспертызы паказалі руйнавальнае ўздзеянне метадалогіі Хабарда на арганізм чалавека і яго псіхіку. У прыватнасці, у Германіі пасля дзяржаўнай экспертызы секта саенталагаў атрымала акрэсленне "крымінальнай камерцыйнай арганізацыі з элементамі псіхатэрору". Яна была класіфікаваная як адзін з відаў сатаністкіх сектаў.

Аднак саентолагі — не адзіныя, актыўна дзеючыя ў Беларусі. Не меншую актыўнасць за іх выказвае секта "Сведкі Егавы". Што гэта за арганізацыя?

У 1884 годзе Чарлз Тэйз Расэл у ЗША заснаваў літаратурна-выдавецкае таварыства "Вартавая вежа". Ён жа стаў аўтарам шасці тамоў так званых "Вывучэнняў Святога Пісьма" — перапісанай ім на свой лад Бібліі. Пільна вывучаючы ягоныя творы, людзі здолеюць зразумець намеры Бога, вучыў Расэл. Апафеозам ягонай дзейнасці стала прадрачэнне канца свету ў 1914 годзе. Пазней Апошні суд быў перанесены на 1915 год.

Пасля смерці Расэла ў 1916 годзе секту ўзначаліў Рутэрфорд. Да шасцітомніка свайго папярэдніка ён дадаў сёмы том з назваю "Зніклыя таямніцы", у якім абвяргнуў усё, напісанае Расэлам. Вынікам таго стаў раскол у секце, які не перашкодзіў яе прыхільнікам прызначыць новы канец свету спачатку на 1918, а потым на 1925 год.

У 1931 годзе "Сведкі Егавы" зноў сталі адзінай арганізацыяй пад кіраўніцтвам таго ж Рутэрфорда. Канец свету яны чакалі ў 1942 годзе, але настаў ён для аднаго толькі кіраўніка секты, які натуральным шляхам пакінуў гэты свет. Ягоны пераемнік Натан Нор прызначыў чарговы канец свету на 1975 год, але памёр у 1977 годзе, на ўласныя вочы пераканаўшыся ў сваёй памылцы.

З таго часу "сведкамі Егавы" кіруе Фрэдэрык Франц. Ён адмовіўся ад прадказанняў, затое зрабіў нешта больш: стабілізаваў фінансавы стан секты. Якім чынам? "Пакуль матэрыяльныя даброты яшчэ не страцілі сваёй каштоўнасці, трэба аддаць іх на справу пашырэння нашай навукі", — вучаць адэпты секты, перадаючы ёй у валоданне ўсю сваю маёмасць пры жыцці і праз тэстаменты пасля смерці. Дзякуючы такой падтрымцы секта распаўсюдзілася па ўсім свеце і, ужо не называючы дат, мянуе сваіх удзельнікаў адзінымі сапраўднымі слугамі Бога жывога.

Свой уплыў "сведкі" пашыраюць імкліва. Толькі ў сталіцы Расіі тры гады таму імі была зарэгістраваная першая суполка, а цяпер падобных ёй там дзейнічае каля двух дзесяткаў. Колькасць сяброў кожнай вызначаюць у тры-чатыры тысячы асобаў, а агульная колькасць расійскіх "сведкаў Егавы" наблізілася да 500 000. Каля Санкт-Пецярбурга сканчваецца будаўніцтва іхняга цэнтра, друкарня якога будзе выдаваць кнігі "сведкаў Егавы" для ўсіх краінаў былога СССР, у тым ліку і для Беларусі

Што тычыцца нашай краіны, дык, акрамя саенталагаў і "сведкаў Егавы", свой уплыў тут пашыраюць секты Муна, Вісарыёна, "Белае брацтва" і мноства іншых.

Гэткі ж працэс адбываецца і ў краінах Захаду, і на Усходзе. Паліцыя Францыі і Швейцарыі даследуе выпадкі супольных рытуальных самагубстваў сяброў секты "Ордэн Сонца". Летась у цэнтры Кіева адбыліся масавыя парушэнні грамадскага парадку, справакаваныя ўдзельнікамі "Белага брацтва". У суседняй Расіі колькасць людзей, далучаных да новых акультна-містычных і рэлігійных арганізацыяў (у мінулым годзе іх там было зарэгістравана звыш шасці тысячаў!), за апошнія гады безупынна павялічваецца і сёння дасягнула лічбы 3 500 000 асобаў (паводле іншых звестак — 5 000 000). Пад уплывам новых культаў апынуліся дзесяткі мільёнаў людзей па ўсім свеце.

Сёлета Еўрапейскі парламент заклікаў краіны ЕЭС зрабіць усё, каб іх судовыя, фінансавыя і крымінальныя заканадаўствы не дапускалі парушэнняў закона ў выніку дзейнасці новых культаў. Еўрапарламент заклікаў урады краінаў ЕЭС не надаваць статуса рэлігійных арганізацыям, якія на яго прэтэндуюць, аўтаматычна, без папярэдняга разгляду. А ў выпадку, калі культы вядуць нелегальную або злачынную дзейнасць, неабходна прадугледзець магчымасць скасавання іх статуса рэлігійных аб'яднанняў, бо ён дае ільготы пры абкладанні падаткамі і забяспечвае акрэсленую падтрымку іх законам, сказана ў звароце парламента. Але ці пачуюць яго ў Беларусі, якая ўсё болей аддаляецца ад Эўропы?

**Падрыхтаваў У.П.**

